www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 9 (4261)**

30 студзеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*«Народная Воля»*
*в **Facebook** www.facebook.com/nv.online.info*
*в **Vkontakte** www.vk.com/nvonlineinfo*

# ДЕКРЕТ №1: налог на тунеядство отменен, с 1 января 2019 года трудоспособные неработающие белорусы будут полностью оплачивать некоторые субсидируемые государством услуги

ПРОГНОЗЫ

## За визит к терапевту возьмут 13,8 рубля?

За какие услуги могут потребовать с неработающих стопроцентной оплаты? За лечение? За услуги ЖКХ? За проезд в общественном транспорте?

Может, неспроста в начале января чиновники озвучили стоимость одного посещения поликлиники – 13,8 рубля за визит к терапевту или узкому специалисту. В государственных клиниках уже давно установлены тарифы по оплате пребывания в стационарах. Так, например, койко-место в Республиканском клиническом медцентре Управделами президента, так называемой лечкомиссии, стоит в сутки 41 рубль. Это, естественно, без лечения и без завтраков-обедов-ужинов. Место в палате повышенной комфортности в 9-й Клинической больнице Минска обходится пациенту в 10 рублей 30 копеек в сутки.

Нам не устают повторять, что и за талончики в общественном транспорте мы недоплачиваем, и за отопление в квартирах, и за пребывание детей в детских садах, и еще много за что. Однако насколько правомерным будет обязательное взимание такой платы с неработающих белорусов?

– Не так много сфер, которые могут быть задействованы в механизме полной оплаты потребленных услуг. Медицинское обслуживание у нас по Конституции бесплатное. Всем по потребности предоставляет (*государство* – **Ред.**) медицинскую помощь – как занятым в экономике, так и незанятым, – прокомментировал порталу TUT.by один из разработчиков декрета, директор Института экономики НАН **Валерий Бельский**. – В сфере ЖКХ есть возможность ввести полную оплату услуг для неработающих граждан. Но в ближайшей перспективе останется только два вида услуг, которые будут субсидироваться государством и за потребление которых неработающие граждане могут платить по 100-процентному тарифу, – отопление и обеспечение топливом.




БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ

## «Это попытка переложить ответственность на Совмин»

Многие эксперты сходятся во мнении: в новом декрете нет никакой конкретики, поэтому и комментировать пока нечего. **Александр Соснов**, экс-министр труда и соцзащиты не исключает, что через год власти вообще откажутся от идеи гоняться за тунеядцами.

– Мне кажется, появление декрета в таком виде – это попытка Александра Лукашенко снять с себя ответственность, переложить ее на Совмин: мол, царь хороший – бояре плохие, – говорит Александр Соснов. – И как будет выкручиваться правительство, я понятия не имею. Допустим, комиссии определят тунеядцев. И что? Людям, как в гетто, бирку повесят? Ибо как определить, что в общественном транспорте едет, например, тунеядец? Или такая ситуация: на улице человеку стало плохо. Вызвали «скорую», госпитализировали, оказали помощь, а через день-два выясняется, что он тунеядец, а заплатить за лечение ему нечем?!

Не удивлюсь, если через год Совмин разведет руками: мол, сложно определить список услуг, – и всю эту идею заставить тунеядцев работать по-тихому похоронят.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

РЕЗОНАНС

## Нужно сделать все, чтобы люди работали и не уезжали из страны

Вот что пишут люди о новой инициативе властей в социальных сетях.

«У нас в райцентре раньше было несколько строительных организаций, автопарк, несколько автоколонн. Люди имели работу, соответственно район имел деньги в бюджете. Теперь ничего этого нет, смотрим, кто остался: исполком (здание увеличили вдвое, места им не хватает), милиция (их штат тоже разросся), больница и МЧС. И всё это ребята, которые только берут из бюджета, но ничего туда не кладут. Вот и весь расклад, и такая ситуация, думаю, везде. Беларусь уже свой долг обслуживать не в состоянии, не то чтобы всех прокормить. И вот тут власти необходимо принять решение – что делать дальше. Они, похоже, уже свой выбор сделали, но это ошибочное решение».

«Какой-то абсурд! Ведь в малых городах остро стоит проблема безработицы. Там просто нет работы! И такие «тунеядцы» лишатся, например, медицины? Так начнется мор… Думает ли об этом власть?»

«Все хотят работать! Дайте работу хотя бы за 800 рублей».

«Неужели не ясно, что нужно сделать, чтобы люди работали и не уезжали из страны:

– отменить контракты;

– сделать зарплату минимум 500 у.е.;

– строить агрогородки и жилье на селе;

– тунеядцам (не работающим более 5 лет и не имеющим стажа 10 и более лет) платить налоги!»

«Все дело в том, что безработица растет, особенно в малых городах и поселках: там и рады были бы работать, да работы нет. Так что я считаю этот декрет еще хуже прежних. Это будет, во-первых, большая неуплата комунальных услуг, а медицинское обслуживание, точнее его недоступность, приведет к распространению инфекций, потому что безработному не за что будет посещать врача. Так что те, кто разрабатывал эти законы, оторваны от жизни в полном смысле».

«Что ж получается: я отработаю 20 лет, вдруг окажусь без работы и должна платить за медуслуги?! Это как можно было додуматься до таких декретов?!»

***

***Конечно, по откликам в социальных сетях объективный вывод сделать трудно. А потому «Народная Воля» приглашает к серьезному разговору специалистов, квалифицированных работников предприятий, сотрудников научных учреждений, юристов и, конечно же, представителей властных структур.***

СВАБОДА СЛОВА

## Беларуская асацыяцыя журналістаў звярнулася ў Канстытуцыйны суд

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" і РПГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт" накіравалі сумесны зварот у Канстытуцыйны суд Беларусі з просьбай выказацца адносна прававой нявызначанасці, у выніку якой журналістаў прыцягваюць да адказнасці па артыкуле 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. У звароце падрабязна апісваюцца сітуацыі, калі беларускія суды накладаюць штрафы па артыкуле 22.9 КаАП ("Парушэнне заканадаўства аб СМІ") на фізічных асоб за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.

У звароце адзначаецца, што артыкул 22.9 КаАП, а тым больш частка 2 дадзенага артыкула, прадугледжваюць адказнасць за незаконны выраб і распаўсюджванне прадукцыі СМІ. Згодна з дзеючым законам "Аб СМІ", выраб прадукцыі СМІ з'яўляецца выключна прэрагатывай юрыдычнай асобы (п.20 арт.1).

У сувязі з гэтым ГА "БАЖ" просіць Канстытуцыйны суд прыняць рашэнне, у якім сфармуляваць канкрэтным дзяржаўным органам Беларусі прапановы па ўнясенні адпаведных змен у заканадаўства ў сферы СМІ.

– Мы ўвесь час звяртаем увагу на тое, што дзейнасць міліцыі і судоў у праследзе журналістаў па арт.22.9 КаАП не адпавядае закону "Аб СМІ".

Таму мы просім Канстытуцыйны суд звярнуць увагу дзяржаўных органаў на супярэчнасці ў заканадаўстве і прапанаваць кампетэнтным органам скасаваць супярэчнасці, тым самым спыніць праслед журналістаў", – гаворыць юрыст ГА "БАЖ" **Алег Агееў**.

ВЫБАРЫ-2018

## «Кандыдат жа павінен нешта абяцаць…»

*Учора карэспандэнт "Народнай Волі" правёў тры з паловай гадзіны ў пошуках перадвыбарных пікетаў кандыдатаў у мясцовыя Саветы дэпутатаў і адсочванні іх актыўнасці.*

Пачалі з раёнаў, аддаленых ад цэнтра беларускай сталіцы. Першым прыпынкам рэдакцыйнай машыны стала Малінаўка. Тут найбольш ажыўленае месца – пляцоўкі ля гіпермаркета "Прастор" і гандлёвага цэнтра "Кірмаш". Бачым: стэнды для агітацыі, на якіх наклеены ўлёткі кандыдатаў, ёсць, а саміх агітатараў – няма.

Тая ж карціна і на Каменнай Горцы і па вуліцы Прытыцкага.

– Едзем у цэнтр, – папрасіў я рэдакцыйнага кіроўцу, разлічваючы, што дзе-дзе, а ў раёне праспекта Незалежнасці нехта з пікетоўшчыкаў стаяць усё ж будзе. Тым больш што ў прыватнай размове старшыня руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч выказаўся ў тым духу, што ў панядзелак ён будзе ладзіць пікеты. Напрыклад, на плошчы Калініна. Але і плошча Калініна, і мікраараён "Усход", і мікрараён "Уручча-6" аказаліся без пікетаў, быццам бы выбарчай кампаніі не існуе.

Першы "працуючы" пікет мы знайшлі ля кінатэатра "Кіеў": пад чырвона-зялёным сцягам стаяла адзінокая жанчына.

– Стаім мы тут штодня з 12 да 14, – распавяла яна. – Агітуем за галоўнага ўрача 16-й гарадской паліклінікі Алу Марцішэвіч.

На маё рэзоннае пытанне, чаму пра сябе агітатарша гаворыць у множным ліку, суразмоўца заўважыла:

– Нас тут трое ў пікеце, проста сяброўкі мае пайшлі пагрэцца, хутка вернуцца.

А далей дыялог адбыўся прыкладна такі:

**– Вы добраахвотна ўліліся ў каманду Алы Марцішэвіч, каб за яе агітаваць?**

– Не, не добраахвотна, лепш у гэты час працавала б…

**– Вы яе падначаленая?**

– Не.

**– Як людзі рэагуюць на вашы пікеты?**

– Яны ўвогуле мала выбарамі цікавяцца. А рэагуюць, ведаеце, па-рознаму. Нехта падтрымлівае, нехта абразліва называе і нас, і нашага кандыдата "дармаедамі".

Я бяру ўлётку Алы Марцішэвіч. Маленькі аркушык паперы фармату А5. Там акрамя скупых біяграфічных звестак утрымліваюцца і кандыдацкія абяцанкі. Так, спадарыня Марцішэвіч сярод іншага абяцае, што будзе дабівацца для жыхароў акругі *"будаўніцтва сацыяльных аб'ектаў (дзіцячага садка, школы, паштовага аддзялення ў мікрарёне "Навінкі"), вырашаць праблемы транспартнага злучэння"*.

Як высветлілася, спадарыня Марцішэвіч – дзейны дэпутат мясцовага Савета. Што ж перашкодзіла ёй вырашыць гэтыя пытанні падчас свайго цяперашняга дэпутацкага тэрміну?

– Павінен жа кандыдат нешта абяцаць… – адказала мне яе агітатарша.




Для таго каб на ўласныя вочы засведчыць людскую актыўнасць ля пікета, застаюся хвілін на дваццаць. За гэты час да стэнда с фотаздымкам Марцішэвіч падышоў адзін мужчына, на выгляд глыбока пенсіённага веку. Пастаяўшы і даведаўшыся, хто балатуецца, ён заключыў:

– Ведаю гэтага ўрача, няхай і далей дэпутацтвуе.

Яшчэ адзін перадвыбарны пікет мы знайшлі ў раёне плошчы Якуба Коласа. Пад сцягамі "Белай Русі" двое агітатараў распавядаюць пра прарэктара па вучэбнай рабоце БНТУ Аляксандра Бахановіча. Распавядаюць яны пра яго пераважна самім сабе, бо ніякай актыўнасці ля пікета мы не заўважылі. Пастаяўшы побач каля паўгадзіны і ўпэўніўшыся, што людзей на ажыўленым праспекце Незалежнасці пікет не цікавіць, падыходжу да яго арганізатараў.

– Мы тут стаім штодня з 14 да 16, – тлумачылі агітатары. – Для вас, газетчыкаў, можам засведчыць, што цікавасць у людзей да выбараў нізкая. Раз вы прыехалі, то, можа, напішыце нейкі наказ для нашага кандыдата. Вось мы тут скрыню спецыяльную падрыхтавалі…

Я напісаў. Мяне сфатаграфавалі для "справаздачнасці". Відаць, каб паказаць свайму кандыдату, як "кіпіць праца на пікетах". У адказ я таксама дастаў фотатэхніку і сфатаграфаваў сумуючых агітатараў. На тым і развіталіся.

Да мясцовых выбараў у краіне засталося крыху больш за два тыдні…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

УВАГА!

## Да 25 рублёў…

*З 31 студзеня зменіцца штраф за неаплачаны праезд у сталічным грамадскім транспарце.*

У ГП «Мінсктранс» паведамілі, што безбілетны праезд на ўсіх відах гарадскога транспарту без наяўнасці дакумента, які пацвярджае права на льготны праезд, цягне за сабой накладанне штрафу ад 0,5 да 1 базавай велічыні (ад пяці дзясятых да адной базавай велічыні). Да гэтага часу штраф быў фіксаваны і ў апошні час складаў 0,5 базавай велічыні.

Тлумачэнні аб тым, ад чаго будзе залежаць сума штрафу (ад 12,5 да 25 руб.), паводле слоў прадстаўнікоў «Мінсктранса», будуць дадзены пазней.

ЗАПРАШЭННЕ

## Чакаем Вас, Зянон Станіслававіч…

*Паэт і грамадскі актывіст Славамір Адамовіч звярнуўся з адкрытым лістом да беларускага нацыянальнага лідара ў выгнанні З.Пазьняка. Вось яго тэкст з некаторымі скарэчэннямі.*

***

Паважаны Зянон Станіслававіч! Я не ведаю ўсіх нюансаў Вашага шматгадовага знаходжання за межамі Бацькаўшчыны, але, грунтуючыся на ўласным досведзе выжывання паводле Дублінскай канвенцыі 1990 года і як грамадзянін Рэспублікі Беларусь, бяру на сябе смеласць прапанаваць Вам наведаць нашу краіну з нагоды святкавання надзвычайнай даты ў гісторыі нашага народа – 100-й гадавіны з часу абвяшчэння БНР.

Ведаю, што такая прапанова многімі нядобразычліўцамі будзе расцэнена як «чарговая правакацыя». Гэта не навіна для мяне. Аднак я ведаю і тое, што словы без спраў мёртвыя. Вядома, не мне Вам тлумачыць, што... адбываецца глыбокая сацыяльная, палітычная, канфесійная і ўрэшце духоўная атамізацыя грамадства... Дух народа сцяты ў абцугах…, але не да безнадзейнасці. У нас, беларускіх патрыётаў-нацыяналістаў, ёсць магчымасць перавесці патэнцыйную энергію 2018 года як Года БНР у кінетычную з пастаяннай дынамікай росту. Іншымі словамі, Вас, Зянон Станіслававіч, чакаюць нават тыя, хто ўжо даўно і незваротна паставіў толькі на ўласныя сілы. Самае кур'ёзнае, бадай, у тым, што Вашаму прыезду спрыяе і ўвядзенне так званага бязвізу на нашай заходняй мяжы. Варта толькі пісьменна выкарыстаць сітуацыю.

Не сумняваюся: калі аднойчы мы пачуем, што Зянон Пазьняк сёлета збіраецца наведаць Беларусь, то нават не дзясяткі, а сотні аўто Вашых прыхільнікаў, апалагетаў і проста суайчыннікаў гатовы будуць сустрэць Вас на любым памежным пункце пропуску і забяспечаць належны эскорт. Менавіта Ваш прыезд у Беларусь з паўнамоцтвамі ад Рады БНР альбо ўласна яе прадстаўнікамі стаўся б найярчэйшым і найістотным момантам адзначэння сотай гадавіны з часу прыняцця Трэцяй Устаўной Граматы.

Са свайго боку ў выпадку Вашага прыезду гарантую Вам самы цёплы прыём у самым цэнтры Беларусі – у Мар'інай Горцы, а таксама калектыўнае фота на фоне бела-чырвона-белага сцяга, які і сёння лунае на сцягары над маёй беларускай сядзібай.

Спакойнага ўезду і прыязных памежнікаў, Зянон Станіслававіч!

***

*Даведацца, як адрэагаваў на зварот Славаміра Адамовіча Зянон Пазьняк, пакуль не атрымалася, бо ён, паводле інфармацыі яго паплечнікаў, зараз знаходзіцца ў Амерыцы, але на тэлефанаванні ўжо амаль тыдзень не адказвае*

## «Тут няма нават пра што казаць…»

А вось як пракаментаваў гэты зварот намеснік старшыні КХП – БНФ **Юрась БЕЛЕНЬКІ**:

– Няўжо няма больш інфармацыйных падзей, як толькі абмяркоўваць заяву Адамовіча? Усім жа вядома яго эпатажная фігура, таму тут няма нават пра што казаць. Славамір Адамовіч дае гарантыі бяспекі Зянону Станіслававічу, калі той прыедзе ў Беларусь? Хто ты, каб даваць гарантыі? А я ўжо сто разоў казаў, што Пазьняку небяспечна вяртацца дадому.

**– А многія, спадар Беленькі, наадварот лічаць, што Пазьняку ўжо даўным-даўно нішто не пагражае. Ды і святкаванне 100-годдзя БНР – даволі значная падзея, чаму б Зянону Станіслававічу сапраўды не прыехаць на Радзіму…**

– Ён жа з розуму пакуль не выжыў, каб вяртацца. Тым больш што і ў Нью-Ёрку будзе маштабнае святкаванне гадавіны стварэння БНР. А чаго сюды прыязджаць? Каб быць знішчаным?..

***

*Як кажуць, без каментарыяў.*

Народная Воля http://www.nv-online.info
30 СТУДЗЕНЯ 2018 г.

СВЕТСКАЯ ХРОНИКА

# Владимир Прокопцов откопал в себе неожиданный талант

В стране объявлен общий сбор красавиц: по областным городам идет кастинг девушек на конкурс "Мисс Беларусь-2018". В жюри впервые приглашен директор Национального художественного музея Владимир Иванович Прокопцов. Как человеку со вкусом строгой классической сборки работалось на первых просмотрах, которые проходили в Гомельской области?

– Откопал в себе неожиданный талант – ценитель современной женской красоты, – сказал Владимир Иванович, и по интонации чувствовалось, что он сам удивлен своим участием в этом проекте. – Столько впечатлений! На кастинг в Гомеле приходили мало того что красивые девушки, так еще и хорошо образованные: врачи, учителя, социальные работники. Они занимаются благотворительностью, волонтерской деятельностью, умеют поддержать разговор, знают английский, прекрасно владеют белорусским.



Читали стихи! Меня поразило, как развита молодежь. Жаль, что многие не прошли кастинг по росту, который по условиям конкурса должен быть не ниже 174 сантиметров.

Добавим, что еще у конкурсанток не должно быть пирсинга и татуировок на теле. Они не должны состоять в браке или воспитывать детей. Победительнице национального конкурса "Мисс Беларусь-2018", который пройдет в столице в мае, достанется корона и крупный денежный приз. А также право представлять страну на международных подиумах. В Минске отборочный кастинг пройдет 10 и 11 февраля.

**Виктория ДРОЗД.**




ЗАОЧНЫЙ ДИАЛОГ

## Дружит ли морковь с картошкой?

**Всеволод Стрельченко (г.Житковичи):**

**– Как влияет на сохранность картофеля его соседство с другими овощами? Например, с морковью.**

– Во время хранения морковь выделяет небольшое количество этилена. Совместное хранение этих двух культур нежелательно. Морковь провоцирует прорастание картофеля; особенно вредно, когда моркови много. А вот если ее немного, выделяющийся этилен в малых дозах, наоборот, подавляет прорастание.

**– Как определить, много или мало?**

– В порядке эксперимента поставьте один ящичек моркови с несколькими мешками картошки, и вы увидите результат.

**– Спорный вопрос: нужно ли перебирать картофель зимой? Ученые не советуют это делать, а дачники, насколько я знаю, это делают. Хотелось бы знать ваше мнение.**

– При переборке инфекция, если она есть, быстро переносится с клубня на клубень. Даже при самом нежном обращении на клубне появляются микротрещины. А раз так – повышается интенсивность дыхания, активнее идут все процессы, в том числе и развитие болезней.



**– Заодно хотелось бы спросить: как бороться с колорадским жуком? Что ни делаю – большого эффекта не вижу.**

– Попробуйте применить распространенный препарат децис. Но не используйте его в жаркую погоду. В это время нарушается механизм действия, и препарат быстро разлагается. Наш читатель из Дрогичина Михаил Середа во влажные дни обрабатывал им картофель. И расходовал раствор (10 капель на ведро воды) на 3 сотках. Через неделю жука не было.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Обрезка морозов не боится

Обрезать плодовые деревья можно и зимой. При этом необходимо учитывать, что у старых растений цветочные почки начинают закладываться и развиваться раньше, поэтому запоздалая обрезка может привести к повреждению и удалению большого числа цветочных почек.

Любительские сады небольшие, обрезку можно проводить в более подходящие сроки, поближе к весне, но до начала сокодвижения, то есть за месяц до набухания почек. Лучшее зарастание ран, нанесенных обрезкой, наблюдается в начале вегетации, но это не значит, что раны, нанесенные в зимние сроки, будут зарастать хуже. При правильной, грамотной обрезке, если срезы вовремя замазать садовым варом, зарастание ран идет без отклонений.

Зимнюю обрезку начинают с яблонь как с более зимостойкой плодовой породы, а затем во второй половине зимы продолжают обрезку остальных плодовых деревьев.

По степени укорачивания обрезку подразделяют на:

– слабую – укорачивание однолетнего прироста на ¼;

– среднюю – укорачивание на 1/3;

– сильную – укорачивание на ½.

*Слабую обрезку* молодых деревьев применяют тогда, когда хотят ускорить их плодоношение.

Если деревья имеют сильный однолетний прирост (50–70 см), то прибегают к слабой обрезке, чтобы не вызвать вновь сильный рост у новых побегов.

*Сильную обрезку* молодых деревьев применяют в том случае, когда необходимо усилить рост, ветвление и утолщение оснований ветвей. Если у молодых деревьев наблюдается очень слабый рост (менее 30 см), также прибегают к сильной подрезке однолетнего прироста. Если прирост менее 15 см, скелетные ветви нужно укорачивать до двухлетней древесины.

Итак, степень обрезки зависит от типа кроны и от роли, которую играют отдельные ветви и разветвления в кроне данного дерева. Например, скелетную ветку подрезать можно слабее, чем обрастающие, в этом случае крона становится более насыщенной плодовой древесиной и урожайной.

БЫВАЕТ И ТАКОЕ...

## Домашние лекари

Принес однажды внук суточного щенка, и кошка не только своего котенка выкормила, но и песика. Прямо как доктор, она каждый год присматривает за козлятами, проверяет, нет ли больных. А в этом году просто спасла козленка. Коза очень тяжело рожала последние два раза. Нынче же перед козлением я дала ей 50 г водки. Первый козленок родился нормально, а второго она «выплюнула» стоя, и малыш ударился о стену (я не успела подхватить). Занесла его в дом, а он не двигается и ноги – как варенные макароны.

Кошка двое суток практически не отходила от него: погуляет – и снова ему головку лижет. Я же ножки растирала. На третий день козленок встал на ноги, а через неделю бегал наравне со своими братцами.

Этим летом у меня разболелась нога. Так коленка болела, что иногда приходилось ходить с палочкой. И вот однажды, встретив корову с пастбища, я приготовилась к дойке. Вдруг почувствовала такую боль, что не знала, куда ногу деть. Дою, плачу и причитаю: «Доча, что же делать, неужели я попаду в больницу?!» Кое-как подоила, встаю – и вдруг корова поворачивает голову и начинает лизать мою больную ногу своим шершавым языком. Да не в одном месте, а так, будто массаж всей ноги делает.

Десять дней после каждой дойки корова меня так лечила. Причем, если я была в брюках, она старалась задрать штанину. Поняв это, я стала ходить в хлев в халате. После такого «курса терапии» я почувствовала облегчение. Удивительно: когда нога перестала болеть, корова сама прекратила делать массаж.

**Галина КОРШУНОВА.**

*Барановичский район*

УЧЕНЫЕ СЧИТАЮТ

## Источник долголетия

Среди выращиваемых видов капусты *пекинская капуста* занимает особое место благодаря своим удивительным качествам. Этот вид не имеет себе равных среди овощных культур по скороспелости, урожайности, а главное – по темпам нарастания вегетативной массы урожая. Особой популярностью она пользуется у населения Китая, Японии, Кореи, Вьетнама и других стран Азии. Там она известна под названием *кимча* (это салат из пекинской капусты со сладким перцем и дайконом), ее употребляют в свежем виде долгожители, утверждающие, что своей долгой жизнью и выносливостью они обязаны пекинской капусте.

У пекинской капусты используют в пищу листья и кочаны в любой фазе развития, чего не скажешь о белокочанной.

Пекинская капуста уже через 20–30 дней после высадки рассады пригодна к употреблению. Обратите внимание на сорт *Марфа*.

Чем же так полезен этот вид капусты?

Пекинская капуста в сравнении с другими видами капусты богата солями калия, кальция, фосфора, железа, витаминов $B_1$, $B_2$, PP, каротином, а витамина C в ней больше, чем в салате; она содержит в два раза больше белка, чем белокочанная.

Пекинская капуста имеет три формы: листовая, полукочанная и кочанная.

Самые скороспелые формы – листовые. Их начинают убирать через 30-35 дней после всходов, кочанные – через 60–80 дней. Длина листьев капусты от 30 до 60 см, с толстыми, широкими, сочными и нежными белыми корешками.

Из пекинской капусты готовят всевозможные салаты с зеленью лука, петрушки, сельдерея, укропа с добавлением сметаны, майонеза, растительного масла, сока лимона. Ее квасят с чесноком, перцем и другими пряно-ароматическими растениями. Листья пекинской капусты тушат, кладут в супы, используют для приготовления голубцов.

Пекинскую капусту выращивают как в открытом, так и в защищенном грунте под простейшими пленочными укрытиями. Поэтому сеять ее можно практически в любое время года.

Оптимальная температура для выращивания пекинской капусты – 15–24ºС. Всходы ее переносят заморозки до минус 1–2ºС, а растения в фазе четырех настоящих листьев – до минус 4ºС.

**Раздел ведет агроном Федор ВЕРАВОЙША.**

ШАШКІ

# Чытачы ствараюць прыгажосць

Нам прыемна знаёміць чытачоў з новымі прыгожымі творамі нашых аўтараў. Хочацца пажадаць ім і далейшага натхнення і творчых поспехаў.

Першае слова ў гэтым выпуску – галоўнаму архітэктару "Мінскдзяржпраекта", чэмпіёну свету ў жанры "задачы", міжнароднаму гросмайстру **Анатолію Шабаліну**. Архітэктура яго задачы неверагодная! Дамка чорных замыкаецца ў двух варыянтах на сярэдзіне дошкі.



№1 **Белыя**: 12, 14, 15, 17, 18, 21, 22, 30, 33, 38, дамкі 2, 3, 5, 20, 27, 29, 39 (17).

**Чорныя**: 6, 37, дамкі 4, 9, 28, 47 (6).

43(25**А**), 36, 31, 17, 11, 3:14, 19, 4 **(10) А**(48), 38-33, 43, 29-24, 31, 17-11, 5:14, 13, 15:4 **(9)**.

Мінчанін **Валерый Свізінскі** прапануе свае творы на 64-клетачнай дошчы.



№2 **Белыя**: c1, c3, d2, e3, f2, g1, h2, h4 (8).

**Чорныя**: a5, b4, b6, d6, f4, f6, g5, g7 (8).

ed4(de5), de3(b:d2), fg3, e5(d6), d2, f2, a7(e5), c5(f4), g5, e7 x.

№3 **Белыя**: a5, b2, c1, c3, e1, e3, f2, f4, g1, h2 (10).

**Чорныя**: a3, c5, c7, d4, d6, e5, e7, g3, h4, h6 (10).

g5(b4), f4, e5, cd2, f6(e3), e5(gf2), g3, f4, e3x.

Дамачную праблему з рэдкім матывам нават для 100-клетачнай кампазіцыі прапануе пераможца апошняга матча Украіна–Расія–Беларусь **Аляксандр Мікалаеў** (Цвер).

№4 **Белыя**: g1, b2, e3, h6, e7 (5).

**Чорныя**: b6, e5, g5, f4, b4, дамка e1 (6).

d8, h4(c1**A**), c3, gf2, f4, f4 x **A**(a3), c3, gf2, f4/h2, e5 x.

Наступныя кампазіцыі спецыяльна для нашай рубрыкі прапануе прызёр чэмпіянату Беларусі **Мікалай Ляшкевіч** (Мінск).

№5 **Белыя**: a1, e1, g1, f2, e5, g5, f6, g7 (8).

**Чорныя**: d2, c3, g3, b4, d4, h4, b6, e7 ,d8 (9).

d6, b2, e5, d6, f2, h8, h2 x.

№6 **Белыя**: a1, a3, g5, b6, f6, a7, e7, g7 (8).

**Чорныя**: f2, h2, c3, e3, d4, h4, c5, e5, d8 (9).

c7, gf8, h6, c7, b4, g1 x.

Для чарговага бліц-конкурсу **Анатоль Панчанка** прапануе пазіцыі беларускіх аўтараў з базы **Антанаса Гімбутаса**, якія яшчэ не друкаваліся.

№7 **Віктар Шульга** (Мінск):

**Белыя**: a7, b6, d4, f4, g1 (5).

**Чорныя**: e7, g7, f6, c5, h2 (5).

№8 **Віталь Варушыла** (Мінск):

**Белыя**: c7, e7, b6, d6, f6, c5 (6).

**Чорныя**: h6, a5, b4, a3, g3, d2, f2 (7).

№9 **Петр Шклудаў** (Наваполацк):

**Белыя**: e7, d6, f6, a5, e5, g5, d4 (7).

**Чорныя**: b8, c7, b6, h6, c3, b2, d2, h2 (8).

Знайдзіце выйгрыш за белых.

Закончым знаёмства з творамі нашых аўтараў таксама задачамі-100 **Віктара Шульгі** – вядучага рубрыкі.

***На замыканне дамкі і шашкі чорных***

№10 **Белыя**: 8, 13, 20, 30, 31, 44, 45, дамкі 24, 25, 33, 43 (11).

**Чорныя**: 15, дамка 2 (2).

9(36**А**), 45-40, 22, 38, 25-43[(**49**)35] **А**(4), 24-29, 29-40, 27, 43, 49 [(**50**)44].

№11 **Белыя**: 14, 19, 20, 24, 29, 30, 40, 41, 44, 50, дамкі 25, 26 (12).

**Чорныя**: 15, дамка 2 (2).

13(46**А**), 12, 19, 12-40, 25-34 [(**45**)35] **А**(5), 17, 14, 23, 24-20, 45, 43, 49 [(**50**)44].

### Супаставім рашэнні

"Народная Воля" ад 28 лістапада 2017 года.

**№13:** c7, b6, d4, g5, f4(a1), b2, f2 x.

**№14:** f6, f8, d6, fe7, c7, e3, a3 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублёўск Круглянскага раёна.), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, "Шашкі"***

або на электронны адрас: **shulga.checkers@gmail.com.**

**Віктар ШУЛЬГА, міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

МАЗАІКА

### Арына Сабаленка змяніла трэнера

*Новым настаўнікам беларускай тэнісісткі стаў шведскі спецыяліст Магнус Норман, які раней працаваў з тэнісістам Стэнам Ваўрынкам.*

Напярэдадні стала вядома, што спартсменка развіталася са сваім асабістым трэнерам **Халілам Ібрагімавым**, з якім супрацоўнічала каля двух гадоў.

Раней Ібрагімаў сам казаў, што неабходны новы трэнер, больш вопытны, паколькі на такім узроўні, на якім цяпер знаходзіцца Арына, ён ніколі не працаваў.



### Ёсць рэкорд!

*23-гадовая беларуская тэнісістка Аляксандра Сасновіч, што ўпершыню ў кар'еры дабралася да 3-га раўнду адкрытага чэмпіянату Аўстраліі, паднялася на рэкорднае для сябе 46-е месца ў абноўленым рэйтынгу WTA.*

Узначальвае сусветны рэйтынг 27-гадовая датчанка Каралін Вазняцкі, якая ў мінулую суботу выйграла Australian Open і вярнулася на вяршыню рэйтынгу WTA ўпершыню са студзеня 2012 года.

### Старыя знаёмыя…

*Мужчынская зборная Беларусі па гандболе згуляе з камандай Аўстрыі ў плэй-оф кваліфікацыі чэмпіянату свету-2019.*

Матчы плей-оф пройдуць 8 і 12/14 чэрвеня. Першая гульня адбудзецца ў Мінску.

Варта адзначыць, што на Еўра-2018 Беларусь перамагла ў групе Аўстрыю з лікам 27:26, выбіўшы яе з турніру.

МЧС ПРЕДУПРЕЖДАЕТ...




Адрас рэдакцыі:
220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



9 772071 964000 18009

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 29.01.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 340 экз. Заказ № 158.